

# Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

На нядаўняй нарадзе "па сялу" Аляксандар Рыгоравіч у чарговы раз нямала зьдзівіў прысутных і народ. Напрыклад, ён літаральна загадаў вяскоўцам ня рэзаць жывёлу. А што зь ёй рабіць, не сказаў. Сяляне ж ведаюць, што карміць жывёлу няма чым, што да выгану яе на зялёную пашу яшчэ далёка. Загад не загад, а вязуць скацінку на мясакамбінаты. А там свае праблемы: мінулагадовыя пазыкі, кошт захаваньня, дарагавізна энэргетычных рэсурсаў... Сапраўды, як падумаеш на месцы Лукашэнкі, лепш нічога не кранаць: няхай усё ідзе як ішло. Неяк жа выжывалі раней.

Магілёўскія будаўнікі перажываюць сур'ёзны крызыс вытворчасьці. І хоць афіцыйная статыстыка паведамляе пра іншае, маўляў, паказчыкі першага кварталу гэтага году вышэй за мінулагоднія ажно на 190%. Але дасягнута гэта праз сёлетняе заканчэньне мінулагодніх будоўляў. Бягучыя адпаведна пяройдуць на наступны год. Так гэтае кола і коціцца, не даганяючы само сябе.

З крыніцаў, вартых даверу, атрымана інфармацыя пра тое, што ў "дзень салідарнасьці працоўных" у абласным цэнтры будзе ўрачыста, зразумела, адчынены Лядовы палац. Ускосна гэта пацьвярджаецца таксама тым, што чарговы "ленінскі суботнік", пра што на адпаведнай нарадзе паведаміў гарадзкому начальству намесьнік старшыні аблвыканкаму Анатоль Глаз, павінен падтрымаць гэты апошні акт (ці то трагедыі, ці камэдыі). Горад спадзяваўся накіраваць сродкі ад прымусова-дабраахвотнай бясплатнай працы людзей на заканчэньне комплексу хуткай мэдычнай дапамогі. Аблвыканкаму, як гаворыцца, відней.

Сярэдні заробак у вобласьці амаль не адрозьніваецца ад мінімальнага спажывецкага бюджэта. Розьніца на карысьць заробку, але ўсяго на 4,8%. Істотна вышэйшыя заробкі толькі ў пэўных катэгорыяў рабочых і служачых. Пра гэта паведамілі магілёўскія прафсаюзы. Нават гэтыя так званыя "афіцыйныя" прафсаюзы прызнаюць, што нягледзячы на шматлікія абяцанкі, улады ніяк ня здолелі ўзьняць жыцьцёвы ўзровень. На жаль, далей канстатацыі становішча выхаванцы "школы камунізму" не ідуць. Працоўным застаецца самім думаць пра тое, як абараняць свае правы, ахова якіх ёсьць найпершым клопатам і наогул сэнсам існаваньня прафсаюзаў.

Кампанія па барацьбе зь відэа і аўдыё пірацтвам закранула і абласны цэнтар. Дала плён: спэцслужбы адшукалі 3 "падпольныя" фірмы, што займаліся калі не вырабленьнем падробак, дык іх распаўсюдам. Цікава, што карысталіся паслугамі гэтых фірмаў ня толькі звычайныя гараджане, але і мясцовыя тэлеканалы. (Нават той, які паказваў выкрывальны сюжэт пра "падпольшчыкаў"). Што да мяне, я правёў бы кампанію па зьнішчэньні ў горадзе расейскае папсы і так званай "эстрады", якая на ўвесь горад гучыць з усіх шапікаў, не разьбіраючы часу з раніцы да начы.

Нельга было не зьвярнуць увагі на адно "кадравае" прызначэньне ў магілёўскім гарвыканкаме. На пасаду начальніка аддзела па працы і занятасьці прызначаны спэцыяліст, які дагэтуль працаваў "на зоне". Можа, ён і праўда спэцыяліст у тым, чым ёсьць занятасьць і праца, і менавіта такі нам патрэбны. Можа і сапраўды, як гаворыцца, прабіў час...

Рашэньнем аблвыканкаму па вобласьці рапачалася падрыхтоўка да сьвяткаваньня Дня Перамогі. Як заўжды, гэта будзе нагадваць справаздачу перад вэтэранамі вайны аб посьпехах у пабудове сьветлай будучыні, за якую яны змагаліся, якую ўратавалі і г.д. Вэтэраны традыцыйна прамаршыруюць. Атрымаюць сувэніры і "франтавую чарку". Распавядуць падрастаючаму пакаленьню пра неўміручы подзьвіг. Вось толькі жыцьцё іх неўладкаванае застанецца пасьля сьвяткаваньня такім жа, як да яго. Ужо 55 год такое ж...

Міністэрства культуры прызнала лепшай пастаноўкай леташняга сэзону спэктакаль "Трагедыя аб Макбэце" магілёўскага рэжысэра Тэатра лялек Алега Жугжды. Паведамленьне засьпела Алега пасьля таго, як ён прыняў рашэньне сыйсьці з роднай сцэны па шмат якіх, далёка ня творчых, матывах. Мы неаднойчы друкавалі свае высокія адзнакі мастацкай працы гэтага Майстра. Прыемна, што ні кажыце, усьведамляць, што і міністэрства нешта разумее ў тэатральнай творчасьці! Сказаць тое ж пра мясцовае культурнае начальства не выпадае.

Увесь квартал бяз працы пастаяла абсталяваньне на малочным заводзе па вырабу так званага дзіцячага тварагу. Дазволу на яго выкарыстаньне не дае санітарная служба зь Менску. Узгадненьне папераў заняло, як бачым, нямала часу і працягваецца далей.

Да сустрэчы, Сымон Глазштэйн.

РОЗГАЛАС ДНЯ ВОЛІ

# Мы — Народ. А хто яны?..

Падзеі ў Менску, што мелі месца 25 сакавіка 2000 году, лішні раз пацьвердзілі, што ёсьць найвялікшай каштоўнасьцю для чалавека як Homo sapiens і як роўнага сярод усяго жывога на Зямлі – прага да свабоды.

Сталічныя ўлады дазволілі мерапрыемства 15 сакавіка. І яно нечакана для многіх сталася масавым прыгожым мерапрыемствам. Але ўжо па задуме яно ня несла тае эмацыйнае насычанасьці, таго кантэксту, што былі ў даты 25 сакавіка. Бо ў гэты дзень 82 гады таму ў значна больш няспрыяльных умовах упершыню ў гісторыі гэтае зямлі нашая краіна была абвешчаная незалежнаю дзяржавай. Дзякуючы гэтаму мы сёньня маем трывалы падмурак для нашага жыцьця ды працы. І натуральна, сёньняшнім уладам невыгоднае такое становішча. Больш таго, быў вялікі спадзеў, што сьвята пройдзе на вельмі высокім узроўні. Бо рыхтаваліся, ды й Марш Свабоды-2 паказаў – ёсьць яшчэ ў нас "славуты беларускі дух".

І ўсё ж у падсьвядомасьці тулілася заклапочанасьць, бо менавіта на Дзень Волі ў 1998 годзе ўпершыню дэманстранты далі дыхту міліцыянтам у адказ на іх правакацыі.

Але тое, што адбылося 25 сакавіка 2000 году ў г.Менску, спрагназаваць усё ж было цяжка. Упершыню пасьля 1996 году зь ягоным рэфэрэндумам жыхары гораду пабачылі вайсковыя падразьдзяленьні з бранятэхнікай на вуліцах сталіцы. Яны выйшлі наводзіць парадак. І падобнае гэта было альбо на страх і гістэрыю, альбо, наадварот, добра сплянаваную акцыю. Бо вельмі ўжо агрэсыўна ды жорстка абыходзіліся "ахоўнікі парадку" з тымі, чапаць каго псыхічна здаровы чалавек наўрад ці б дадумаўся (журналісты ды асобы з дыпляматычнай недатыкальнасьцю).

І прыходзіць у галаву думка, асабліва ўзгадваючы кантактаваньне напярэдадні Пуціна з Лукашэнкам, што гэта ня хто іншы, а Расея пачала праводзіць чарговую "зачыстку" (слова з БТ пра дзеяньні міліцыянтаў) у чарговай гарачай кропцы "сваёй" тэрыторыі. Пакуль, праўда бяз стрэлаў ды сіламі... беларускае міліцыі. Сёньня. Але што будзе заўтра?

На жаль, прэзыдэнтам Расеі стаў, як і меркавалася, чалавек, які, мякка кажучы, не прыхільнік незалежнасьці Беларусі. Вытрыманы, разумны, сур'ёзны. Цьвёрдая рука, нічога ня скажаш. Здольная любога "баявіка" "замочіць в сорціре". Але ці мог быць у Расеі іншы прэзыдэнт?

Вядомае толькі адно. Гэты прэзыдэнт Расеі стане для яе апошнім, калі паспрабуе падняць руку на беларускі народ.

*Андрусь КАВАЛЁЎ*



Фота: IREX

# Тры гадзіны ў стане злачынцы

Пяць чалавек з Горак былі ў Менску, каб прыняць удзел у святочным шэсьці з нагоды Дня Волі. Двое зь іх былі арыштаваныя. Пасьля 3-х гадзіннага ўтрыманьня ў пастарунку іх выпусьцілі. Расказвае Сяргей Дулуб, адзін з пацярпелых:

"Мяне ўзялі каля філярмоніі, калі я паспрабаваў абараніць жанчыну, якую гвалтоўна цягнулі па асфальце некалькі ОМОНаўцаў. Мяне заштурхалі ў міліцэйскі "уазік", дзе ўжо сядзеў затрыманы хлопец, потым пачалі запіхваць жанчыну, якая актыўна аказвала супраціў, не даючы міліцыянтам зачыніць дзьверы машыны. Яе білі дубцоўкай па нагах. Мне таксама дасталося: атрымаў гумовыя ўдары па галаве і сьпіне. На краі плошчы нас перагрузілі ў вялікую машыну для вязьняў і павезьлі ў вайсковую часьць, што па вуліцы Маякоўскага. Разьмясьцілі ў ангары, прыстасаваным пад спартовую залю. Там былі беларускія, расейскія і польскія журналісты, сьвятар і нават чарнаскуры беларус. Арыштаваныя былі вельмі салідарныя: скандавалі лёзунгі, спрабавалі фатаграфаваць ОМОНаўцаў, разам сьпявалі песьні, якія міліцыянты пачалі глушыць праз дынамікі, уключаючы нейкія забытыя савецкія факстроты. Шмат каго абшукалі і ўсіх фатаграфавалі, быццам злачынцаў. Былі перапісаны пашпартныя дадзеныя. Праз нейкі час без усялякіх прабачэньняў нас адпусьцілі".

*Запісаў Віктар КАРАЛЬКОЎ, Горкі*

# Адраджэньне падмагілёўскае сьвятыні

З даўніх часоў паблізу Палыкавіцкае крыніцы, што пад нашым Магілёвам, стаяў праваслаўны храм Вялікамучаніцы Параскевы. Калі драўляная пабудова старэла, яе перабудоўвалі. Гэтак было цягам вякоў. Калі менавіта была пабудаваная царква – няведама, але прыгадваньне пра яе зьявілася ўжо ў XVI стагодзьдзі.

У архіўных матэрыялах XVIII веку, у прыватнасьці ж у "Записках" акадэміка В.Севяргіна, Палыкавіцкая крыніца апісаная, як "необычайный для Белоруссии источник углекислых вод, о целебной силе которого шла слава в народе". З 1827-га году быў заведзены звычай зьдзяйсьняць тут архірэйскае служэньне. У 1866-м годзе ў Палыкавіцкую царкву была перанесеная частка парэшткаў сьв. Вялікамучаніцы Параскевы. У тыя дні ў капліцы над крыніцай сьвяцілі ваду.

Шмат знаных людзей бывалі тут у свой час. Пасьля сумнавядомага бальшавіцкага перавароту ў Расеі веліч царквы й крынічкі паступова прыйшла ў заняпад. У 50-х гадох царкву зачынілі, а ў 70-х пры досыць цьмяных абставінах яна згарэла. Захаваліся толькі руіны званіцы. Але сьвятая крынічка й зараз жывая, і вада ў ёй гэткая ж чыстая. Не зусім згасла й людзкая памяць, нішчаная злачыннай сыстэмай. Як і даўней, у сьвяточныя дні сьвяцяць ваду й тут заўжды шмат люду. Некалькі гадоў таму было праведзена ўпарадкаваньне крыніцы. Але ў цэлым, трэба зазначыць, мясцовасьць мае выгляд пакуль што занядбаны.

Парахвіяльная рада самаахвярна займаецца справай аднаўленьня царквы й капліцы. Вядома ж, працы наперадзе шмат. Ня год яшчэ пройдзе, пакуль адродзіцца былая веліч Палыкавіцкае крыніцы й царквы. Але гэта абавязкова здарыцца. Не за дзень жа, як кажуць, Вільня станавілася.

Дарэчы, капліца ўжо дарабляецца...

*Віталь БУГАЁЎ*



САЦЫЯЛЁГІЯ

# Талерантнасьць не загана?

Крычаўская сацыялягічная лябараторыя "Позірк" правяла ў сакавіку апытаньне жыхароў свайго гораду. Апытаньне тычылася рэлігійнай тэмы. Былі апытаныя 114 чалавек рознага ўзросту – ад 18 да 70 год, з розным узроўнем адукацыі.

На першае пытаньне – "Ці верыце вы ў Бога?" былі атрыманыя наступныя адказы: "Так" – 76 чалавек, "Не" – 19. Ня ведалі, што адказаць – 17 чалавек.

Праваслаўнага веравызнаньня трымаюцца 83,3% апытаных, каталіцкага – 1,7% і пратэстантам назваў сябе адзін чалавек.

А вось царкву тыя, хто вызнае сябе вернікамі, наведваюць часьцей за ўсё – 40,4% – раз на год. Зусім ня ходзяць у царкву 21,1%,; раз на месяц – 10,5%.

Што ж да апошняга пытаньня, якое гучала наступным чынам: "Як вы ставіцеся да таго, што побач з праваслаўнай царквой у нашым горадзе стаіць помнік Леніну?", большасьць апытаных паведаміла, што ставіцца да гэтага абыякава – 39,5%. Праўда, не нашмат менш тых, хто выказаўся да гэтае зьявы негатыўна – 36,8%. Тых жа, хто наогул добра ставіцца да такога суседзтва, таксама нямала – 14,1%.

